

# Дзвінскі узгорак

*Кроч на свой родны, дзвінскі ўзгорак, каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №3 (3)
САКАВІК 2014 ГОДА

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

# З ДОБРЫМ СЭРЦАМ ДА ЛЮДЗЕЙ

**Жаданне быць патрэбнымі, перадаць свае веды і вопыт моладзі сабрала разам удзельнікаў міні-праекта "Дабрыня", які рэалізуецца з верасня 2012 года на базе Задуброўскага сельскага клуба Віцебскага раёна.**

Гэта другая ініцыятыўная група ў нашым раёне, якая вядзе сваю дзейнасць пад сцягам Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа. Па словах старшыні раённай арганізацыі грамадскага аб'яднання Вольгі Бізікавай, спачатку ўдзельнікі такіх аб'яднанняў вырашаюць агульныя праблемы, арганізоўваюць вольны час. У далейшым актывісты пачынаюць рухаць наперад інтарэсы свайго рэгіёна, рэалізуючы для гэтага сацыяльныя міні-праекты. Сваю дзейнасць яны вядуць у цесным супрацоўніцтве з мясцовымі ўладамі.

— Пенсіянеры — менавіта яны ў суполках рухаючая сіла, людзі з абмежаванымі здольнасцямі не толькі заяўляюць аб сваіх патрэбнасцях, але і прапаноўваюць шляхі рашэння праблем. Гэта дапамагае ім зразумець, што яны патрэбны грамадству, бо ад вынікаў іх працы ў многім залежыць асабістая будучыня і будучыня аднавяскоўцаў, — кажа Вольга Ігараўна.

Сёння задуброўская ініцыятыўная група, якую ўзначальвае загадчык сельскага клуба Вільгаміна Глінко, складае пятнаццаць чалавек, у іх ліку сацыяльныя работнікі, удзельнікі мастацкай самадзейнасці, працаўнікі мясцовага сельгаспрадпрыемства, майстарскага ўчастка жыллёва-камунальнай гаспадаркі і іншыя. Усе яны маюць шчырае сэрца, што падштурхоўвае іх рабіць добрыя ўчынкі. Збіраюцца разам куды часцей запланаваных сустрэч, дзеля таго, каб падзяліцца адзін з адным радаснымі навінамі, расказаць пра жыццё, а таксама звярнуцца да сябровак за парадай ці… новым рэцэптам смачнага печыва. Бо кожная з жанчын сярод сваіх захапленняў называе кулінарыю.

Канкурэнцыю ёй складае бадай толькі кветаводства. Ёсць у "Дабрыні" і свае "зоркі". Да спявачак Вільгаміны Глінко і Зінаіды Марзонавай тут варта далучыць рукадзельніц-майстрыц Вольгу Бяззубаву і Людмілу Юдзенка. Менавіта яны адказваюць за натхненне падчас творчай майстэрні, якая адчыняе свае дзверы для ўсіх жадаючых.

Каб надаць ёй утульную хатнюю атмасферу, міні-праект накрывае сталы, за якімі ўдзельнікі могуць пагутарыць за кубачкам духмянай зялёнай гарбаты. Склад напою трымаецца ў сакрэце. Адно вядома: збор і нарыхтоўка лекавых раслін — справа саміх жанчын. "Каб заўсёды быць здаровымі", аб гэтым марыць чырвонакрыжаўцы, якіх старасць дома не застане. Удзельніцы праекта адгукаюцца на кожнае свята, а час ад часу дораць яго і самі, здзяйсняючы творчыя вандроўкі. Заўсёды яны чаканыя госцейкі ў аддзяленні сацыяльнай адаптацыі, рэабілітацыі і дзённага знаходжання для інвалідаў. Задуброўскія валанцёры даносяць да сваіх суседзяў з г. п. Сураж ідэі дабра, гуманізму і міласэрнасці, імкнуцца далучаць да шматлікіх акцый і мерапрыемстваў. Напрыклад, "Скажы туберкулёзу — не", "Разам супраць пажараў" і іншыя.

Умінулым годзе ў Задуброўскім клубе "Дабрыня" прымала гасцей. Творчая моладзь з вёскі Гара далучылася да ліку сяброў міні-праекта. Нягледзячы на тое, што яны "працуюць" ў розных "узроставых катэгорыях", адзін аднаго ўзбагачаюць, перш за ўсё духоўна. Майстэрня "Берагіня", якая працуе ў Гары, сапраўдная скарбонка аўтэнтычнай культуры, адчыніць якую даручылі менавіта задуброўскім майстрыхам. Ад работ рукадзельніц ініцыятыўнай групы маладыя людзі засталіся ў захапленні.

Не пакідае "Дабрыня" без увагі і тых, хто па стане здароўя і ўзросце не могуць прыйсці ў клуб на вячоркі. Бо міні-праект у сваёй дзейнасці надае вялікае значэнне дапамозе сацыяльна-неабароненай катэгоры насельніцтва.

— Наведванне адзінокіх і адзінока пражываючых, інвалідаў, ветэранаў вайны і працы па месцы жыхарства, удзел у рэспубліканскай акцыі "Збіраем дзяцей у школу", аказанне дапамогі аднавяскоўцам, якія апынуліся ў цяжкай жыццёвай сітуацыі і многае іншае не дае нам быць абыякавымі да тых, хто побач, — кажа Вільгаміна Уладзіміраўна, падкрэсліваючы, што гэткая сацыяльная дапамога не была б магчымай без узаемадзеяння з мясцовымі органамі ўлады, участкам "Задуброўе" УП ЖКГ "Вітрайкамгас", прафкамам КУСГП "Задуброўе" і індывідуальным прадпрымальнікам Міраславай Корыкавай.

"Дабрыня" выступае ініцыятарам суботнікаў па навядзенні парадку на зямлі. У мінулым годзе ўдзельніцы міні-праекта выязджалі на ўборку воінскага пахавання ў в. Каменка. На гэты запланавана добраўпарадкаванне роднага аграгарадка.

Што ячшэ ўвайшло ў перспектыўнае планаванне "Дабрыні" расказала Вільгаміна Глінко: "Міні-праект у гэтым годзе возьме ўсё лепшае з мінулагодніх напрацовак і працягне дзейнічаць ў сацыяльным накірунку, далучаючы да яго моладзь. Вялікая ўвага будзе надавацца сумеснаму адпачынку ўдзельнікаў ініцыятыўнай групы. Гэта падарожжа да святых месцаў і паходы па грыбы і ягады".

Жанчыны ўпэўнены, што ў іх добрай місіі часам дастаткова адзінай усмешкі, а на іх "Дабрыня" шчодрая. Вольга Бізікава дадала да гэтага яшчэ і жыццёвы вопыт валанцёраў, які трэба падмацоўваць "прафесійным". Для гэтага і надалей прымаць актыўны ўдзел у семінарах і трэнінгах, якія арганізуе для ініцыятыўных груп Чырвоны Крыж. У мінулым годзе ў межах праекта яны пазнаёміліся з дзейнасцю сваіх аднадумцаў у Оршы і Мінску.

**Таццяна Дзіканава**
**Жыццё Прыдзвіння**

*Партал твайго раёна: http://vicebskreg.by*

МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

# МІЛІЦЫЯ ПРАВЕРЫЦЬ ЗАКОННАСЦЬ ДЗЕЯННЯЎ

**Са скаргай на дзеянні сябраў Віцебскай гарадской выбарчай камісіі звярнуліся ў Следчы камітэт актывісты Руху «За Свабоду» Хрыстафор Жаляпаў і Аляксей Гаўруцікаў. Зварот быў накіраваны на праверку ў міліцыю.**

У скарзе актывісты Руху «За Свабоду» адзначылі, што не былі зарэгістраванымі ў якасці кандыдатаў ў дэпутаты Віцебскага гарадскога савету. Яны адзначылі, што выбарчая камісія знайшла ў іх подпісы, якія былі прызнаныя несапраўднымі (116 у Жаляпава, 103 – у Гаўруцікава).

Абодва лічаць, што ім адмовілі па палітычных прычынах, бо яны з'яўляюцца сябрамі Руху «За Свабоду» і Партыі БНФ, у складзе іх ініцыятыўных групаў знаходзіцца старшыня Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч.

Палітыкі прыводзяць прычыны, па якім лічаць адмову аб адсутнасці рэгістрацыі незаконнай. У прыватнасці тое, што большасць выбаршчыкаў, якія падпісалі заявы пра тое, што не ставілі подпісы, на паўторнай праверцы заявілі, што зрабілі гэта таму, што іх увялі ў зман.

Жаляпаў і Гаўруцікаў просяць праверыць факты парушэння заканадаўства сябрамі Віцебскай гарадской выбарчай камісіі, за парушэнні заканадаўства і падлог дакумантаў прыцягнуць да крымінальнай адказнасці старшыню Віцебскай гарадской выбарчай камісіі па выбарах дэпутатаў гарадскога Савета дэпутатаў Валянціну Казакоўскую.

10 сакавіка Следчы камітэт Беларусі адказаў, што скарга зарэгістраваная і перанакіраваная для разгляду ў упраўленне ўнутраных справаў Віцебскага аблвыканкама.

**Рух за Свабоду**

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

# МАЙСТРУЮЦЬ НАМЁТЫ ДЛЯ ЦЯЛЯТАЎ

**Другі год на малочнатаварным комплексе «Добрына» ААТ «Рудакова» Віцебскага раёна выкарыстоўваюцца групавыя домікі для цялят. Новы від жылля для «халоднага» метаду ўтрымання жывёл зарэкамендаваў сябе са станоўчага боку.**

Па словах спецыялістаў у шклопластыкавых паўсферах маладняк адчувае сябе камфортна.

Пры мінусовых тэмпературах уваход у «бунгала» зачыняецца шчыльнай шторкой. Утрыманне ў групах аказвае істотны ўплыў на развіццё і здароўе цялятаў. Яны не пакутуюць ад скразнякоў, дыхаюць свежым паветрам і маюць дастатковую колькасць дзённага святла. У маладняку паляпшаецца апетыт, што адбіваецца на павелічэнні сярэднесутачнага прыбаўлення ў вазе і эфектыўнасці выкарыстання кармоў.

Структура матэрыялу паўсферы такая, што яна абараняе жывёл не толькі ад зімовага холаду, але і ад летняй спёкі, засцерагаючы ад сонечных і цеплавых удараў. Унутраная паверхня мае цвёрдае гладка пакрыццё, яго можна хутка і старанна вымыць. У доміку адсутнічаюць стыкі і контуры, у якіх можа назапашвацца бруд. Вялікі ўваход зручны для абслугоўваючага персаналу і доступу свежага паветра. Канструкцыя шатра разам з загонам пры неабходнасці лёгка перасоўваецца.

Зараз на комплексе пакуль 4 падобных хаткі, у кожным змяшчаецца па восем цялятаў. У найбліжэйшай будучыні кіраўніцтва гаспадаркі плануе пашырыць сучасны жылы «мікраэён» для маладняку.

**Сяргей Ляшук**
**Витебские вести**

САЛІДАРНАСЦЬ

# СТВОРАНЫ КАМІТЭТ САЛІДАРНАСЬЦІ З УКРАІНАЙ

**Прадстаўнікі грамадзянскай супольнасьці, беларускай інтэлігенцыі, лідэры палітычных партый падтрымалі ініцыятыву Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі аб стварэньні Камітэту дапамогі Украіне.**

Сярод іх Павал Севярынец, Аляксей Янукевіч, Зьміцер Дашкевіч, Аляксей Марачкін, Анатоль Сідарэвіч, Андрэй Завадзкі, Ганна Шапуцька й Ігар Рынкевіч.

19 сакавіка падчас першага арганізацыйнага паседжаньня было вырашана зьмяніць назоў. Паколькі беларусы могуць аказаць дапамогу ў асноўным маральную, вырашылі назваць новую структуру Камітэтам салідарнасьці з Украінай.

Павал Севярынец адзначыў, што мноства беларусаў, якія не патрымліваюць рэжым Лукашэнкі, дэзінфармаваныя, таму асноўная задача Камітэта — распаўсюд праўдзівай інфармацыі пра падзеі ва Украіне.

Прагучалі прапановы адзначыць Дзень Волі 25 сакавіка пад бел-чырвона-белымі і жоўта-блакітнымі сьцягамі, нанесьці ў гэты дзень візыт у амбасаду Украіны ў Менску. А таксама арганізаваць сталую праваабарончую місію ў Крыме, падрыхтаваць зварот да беларусаў Крыму.

Актывістка Ганна Шапуцька прапанавала накіраваць зварот Генэральнаму пракурору з патрабаваньнем забараніць трансьляцыю тэлеканала «Россия 1» (РТР) на тэрыторыі Беларусі ў сувязі з тым, што ў праграмах канала гучаць заклікі да распальваньня міжнацыянальнай варожасьці.

Аляксей Янукевіч прапанаваў выпусьціць улёткі для кіроўцаў, якія езьдзяць з расейскімі сьцяжкамі, накіроўваць украінцам адмысловыя паштоўкі салідарнасьці.

Аляксей Марачкін прапанаваў арганізаваць шэраг культурніцкіх і асьветніцкіх імпрэзаў, круглых сталоў.

Наступнае паседжаньне Камітэта салідарнасьці з Украінай прызначана на 26 сакавіка. А за гэты тыдзень аргкамітэт павінен вывучыць усе прапановы і стварыць больш канкрэтны плян дзеяньняў.

**Іна Студзінская**
**Радыё Свабода**

ІНТЭРВІЮ

# ПЫТАННЕ - АДКАЗ ... ПРА ГАЛОЎНАЕ

**Старшыня Віцебскага райвыканкама Руслан Фурашоў закрануў пытанні сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна.**

Каляндар вядзе адлік дзён трэцяга месяца 2014-га - Года гасціннасці, які насычаны падзеямі ва ўсіх сферах жыцця. І сімвалічна, што ў гэтым годзе ў Беларусі адбудзецца чэмпіянат свету па хакеі, а на Віцебшчыне, у Гарадку, быў абвешчаны фестываль-кірмаш «Дажынкі-2014». 3 ліпеня мы адзначым знамянальную дату - 70-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка - фашысцкіх захопнікаў, яшчэ праз пару тыдняў - 90 гадоў з дня ўтварэння Віцебскага раёна. У наступную нядзелю фінішуе найважнейшая грамадска - палітычная падзея года - выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў дваццаць сёмага склікання. Пра тое, як ідзе падрыхтоўка да пазначаным дат, як вырашаюцца пытанні сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна і забеспячэння жыццядзейнасці насельніцтва, наша гутарка са старшынёй Віцебскага райвыканкама **Русланам Фурашовым.**

***- Руслан Васільевіч, з якім багажом наш раён ступіў у гэты знамянальны год?***

*- У мінулым годзе забяспечана станоўчыя дынамікасацыяльна-эканамічнага развіцця раёна, прыкметны прырост па асноўных паказчыках. Выкананы ўстаноўленыя распараджэннем старшыні Віцебскага аблвыканкама заданні па сальда знешняга гандлю паслугамі, інвестыцыях у асноўны капітал, рознічнаму тавараабароту, удзельнай вазе адгружанай інавацыйнай прадукцыі, ўводу жылля.*

*Не атрымалася разгрузіць складскія запасы. Атрымана адмоўнае сальда знешняга гандлю. Рэнтабельнасць продажаў склала 4,3 працэнта, у тым ліку ў прамысловасці мінус 3,2 працэнта, у сельскай гаспадарцы - 4,4 працэнта.*

*Раён лідзіруе ў вобласці па вытворчасці валавой прадукцыі сельскай гаспадаркі ў сельгасарганізацыях. У чатырох з іх: КУСГП "Эксперыментальная база ім. Шмырова", ААТ «Віцебская бройлерная птушкафабрыка», СХП «Мазоловогаз» , УП «ЧЕСС-Бел-Агра» выканана заданне па вытворчасці валавой прадукцыі на 110 адсоткаў.*

*Не дасягнулі ўзроўню вытворчасці валавой прадукцыі 90 адсоткаў філіял «Лучоса», КУСГП «Задуброўе», «Эксперыментальная база «Тулава», «Вымна», ААТ «Агротруд».*

*Забяспечаны рост па ўсіх асноўных відах прадукцыі жывёлагадоўлі. Пры гэтым павялічылася ў параўнанні з 2012 годам вытворчасць малака ў СХП «Мазоловогаз», КУСГП "Эксперыментальная база ім. Шмырова", ААТ «Віцебская бройлерная птушкафабрыка», «Рудакова». А вось «Тулава», «Вымна», «ЧЕСС-Бел-Агра», «Агротруд» і «Зялёная Ніва» значна знізілі надоі. Рэнтабельнасць ад рэалізацыі прадукцыі склала 5,1 працэнта, рэнтабельнасць продажаў - 4,4 працэнта пры заданні 12. Чысты страту атрымалі ААТ «Ліпаўцы» - 15284 млн. рублёў, КУСГП «Пестуніца» - 1854 млн. руб, "Эксперыментальная база "Тулава" - 1270 млн. руб, філіял «Лучоса» - 46740 млн. рублёў.*

*У кожным сельгаспрадпрыемстве патэнцыял далёка не вычарпаны. Мы можам і павінны працаваць вынікова. А для гэтага - нарошчваць аб'ёмы вытворчасці, шукаць шляхі рэалізацыі прадукцыі і зніжэння складскіх запасаў на кожным прамысловым прадпрыемстве, не забываючы аб распрацоўцы і засваенні новых тавараў, павышэнні іх канкурэнтаздольнасці. Каб атрымаць максімальны вынік, трэба ставіць максімальныя задачы. Галоўнае, каб людзі разумелі, што яны гаспадары на гэтай зямлі. І пачынаць трэба з дысцыпліны і навядзення парадку на кожным рабочым месцы, беражлівасці, рацыянальнага выкарыстання паліўна-энергетычных, прыродных рэсурсаў. Стымулам для высокапрадукцыйнай працы павінны быць стварэнне добрых умоў на вытворчасці, забеспячэнне годнай зарплатай.*

***-Праз тыдзень фінішуе галоўная грамадска - палітычная падзея года - выбары дэпутатаў мясцовых Саветаў. Які на Вашу думку, Руслан Васільевіч, настрой жыхароў раёна?***

*- Як паказвае практыка, нашых людзей адрозніваe высокая актыўнасць удзелу ў такіх мерапрыемствах. Напрыклад, у 2010 годзе на аналагічных выбарах удзел у галасаванні прынялі 98,1 працэнта выбаршчыкаў - гэта другая лічба ў Віцебскай вобласці пасля маленькага Расонскага раёна. Спадзяюся, што і цяперашняя выбарчая кампанія пройдзе на вышэйшым узроўні, і вяскоўцы аддадуць свае галасы за годных кандыдатаў. У многіх калектывах прайшлі іх сустрэчы з выбаршчыкамі. Азнаёміўшыся з біяграфіяй і перадвыбарчай праграмай, большасць вяскоўцаў ужо вызначылася з выбарам. Як сказаў Першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Радзькоў, выбары - гэта момант ісціны, адказны крок у жыцці кожнага чалавека. Ад гэтага кроку шмат у чым будзе залежаць будучыня сям'і, прадпрыемстваў, раёна, краіны. На дэпутатаў ускладаецца надзея і на іх ляжыць вялікая адказнасць за словы, учынкі і дзеянні.*

*Усіх выбаршчыкаў Віцебскага раёназаклікаюдружнапрыйсці на ўчасткі для галасавання, зрабіць усвядомлены выбар, праявіўшы актыўную грамадзянскую пазіцыю. Толькі з такім падыходам мы можам быць гаспадарамі на сваёй зямлі.*

**Ніна Сталярэнка**
**"Жыццё Прыдзвіння"**

КРЫМІНАЛ

# ТАК "ПРАЦУЮЦЬ" ЧЫНОЎНІКІ

**Намесніка гендырэктара РУП «Віцебскэнерга» вінавацяць у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі. Ідзе следства.**

Прытэнзіі следчага камітэта, які распачаў крымінальную справу па ч.3 арт.424 КК «Злоўжыванне ўладай ці службовымі паўнамоцтвамі здзейсненае службовай асобай, якая займае адказнае становішча», тычацца ранейшай працы гаспадарніка, які займаў пасаду дырэктара аграрнага прадпрыемства Віцебскай вобласці.

Як растлумачылі БЕЛТА у прэс-службе Следчага камітэта Беларусі, кіраўнік выкарыстаў у асабістых мэтах сродкі і будматэрыялы, прызначаныя для рэканструкцыі аб'ектаў прадпрыемства, якое ён узначальвае. Выконваючы неабходныя работы, падрадчык будаваў яшчэ і асабісты катэдж для службовай асобы.

Не выключана, што менавіта таму кіраўнік падпісаў дакументы аб ужыванні павышаючага каэфіцыента выплат будаўнічай арганізацыі з фондаў прадпрыемства.

«У выніку неправамерных дзеянняў дырэктара аграрнаму прадпрыемству нанесены ўрон у асабліва буйным памеры. Па дадзеных следства, сума складае больш за 10 міліярдаў рублёў», - паведамляюць праваахоўнікі. У абвінавачанага канфіскавана каля 600 млн беларускіх рублёў. Ён заключаны пад варту.

Падставай для ўзбуджэння крымінальнай справы паслужылі матэрыялы праверкі, праведзенай УБЭП ўпраўлення ўнутраных спраў Віцебскага аблвыканкама і Віцебскага раённага аддзела ўнутраных спраў.

**ЕЈ Рэгіёны**

# І ДОЎГ НЕ АДДАЎ, І ТЭЛЕВІЗАР ЗАБРАЎ

**Не ўсе ўчынкі правапарушальнікаў атрымоўваецца растлумачыць звычайнай жыццёвай логікай.**

22 сакавіка 2014 г. а 10 гадзіне ў Віцебскі РАУС звярнулася непрацуючая, 1975 года нараджэння, што 21 сакавіка каля 16 гадзін неўсталяваны злачынец пад предолгом вяртання доўгу з яе дома адкрыта выкраў тэлевізар. Шкода 700 тыс. рублёў. Супрацоўнікамі ОУР РАУС устаноўлена, што злачынства здзейсніў грамадзянін, 1992 нараджэння. 22 сакавіка ОСК ўзбуджаная крымінальная справа па ч. 1 арт. 206 КК.

**УУС Віцебскага аблвыканкама**

ЗДАРЭННІ

# УРОК НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ

**22 сакавіка ў 18 гадзін 19 хвілін на нумар «101» паступіла паведамленне, што чалавек праваліўся ў ваду ў вёсцы Малыя Лётцы на возеры Шэвіна.**

Адпачываючая з санаторыя «Лётцы», якая гуляла на беразе возера – ўбачыла рыбака, які праваліўся пад вясновы лёд. Жанчына патэлефанавала выратавальнікам.

Віцяблянін, які рызыкнуў заняцца рыбалкай, знаходзіўся ў вадзе ў 20 метрах ад берага, калі прыбылі ратавальнікі. Пры дапамозе «канца Аляксандрава» дзяжурнымі супрацоўнікамі пад кіраўніцтвам Казлова Паўла з ПАВЧ-2 Віцебскага ГОЧС мужчына быў выняты з палонкі, на санках дастаўлены на бераг і перададзены брыгадзе хуткай медыцынскай дапамогі. Рыбак з дыягназам «пераахаладжэнне» шпіталізаваны ў бальніцу. Стан медыкі ацэньваюць як сярэдняй ступені цяжкасці. Пацярпелы быў цвярозы.

Да прыбыцця ратавальнікаў, жанчына, якая паведаміла ў МНС, з дапамогай вяроўкі ўтрымлівала рыбака, які праваліўся пад лёд. А як паведамілі адвочцы здарэння, пацярпелага папярэджвалі мінакі аб небяспецы выхаду на лёд, але ён вырашыў рызыкнуць, спадзеючыся атрымаць добры ўлоў, а ў выніку атрымаў добры ўрок.

Тэмпература паветра ў дзень здарэння складала +10 С, а таўшчыня лёду на возеры - 3, месцамі 5 сантыметраў. Глыбіня возера - ад 3-х да 5 метраў.

**Віцебскае АУМНС**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Узгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдефануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***

ГАЛОЎНАЯ ПАДЗЕЯ

# РАСІЯ КІДАЕ ВЫКЛІК СУСВЕТНАМУ ПАРАДКУ

**Журналіст-аналітык "Радыё Свабода" Юры Дракахруст разважае пра Крымскія падзеі.**

Прамова Уладзімера Пуціна і рашэньне Фэдэральнага сходу Расеі пра далучэньне Крыма да РФ — выклік сусьветнаму сьветапарадку.

Прэзыдэнт Расеі ў сваёй прамове спасылаўся на досьвед Косава. Але Косава не было далучанае ні да воднай заходняй краіны, яму забаранілі далучацца нават да Альбаніі. Крым далучаецца да Расеі ў якасьці яе рэгіёна. Нагадаю, гэта тое, што 12 гадоў таму Пуцін прапаноўваў Беларусі.

Да таго ж даволі злавесна прагучалі словы Пуціна наконт таго, што паўднёвыя і ўсходнія рэгіёны Ўкраіны былі незаконна далучаныя да Ўкраіны бальшавікамі. Ён, праўда, агаварыўся, што Расея, акрамя Крыму, больш ні на што не прэтэндуе ва Ўкраіне.

Параўноўваць цяперашнюю палітыку Расеі з палітыкай Гітлера ў 30 гадах — можа і кепскі тон, ёсьць істотныя адрозьненьні. Але пасьля анэксіі Судэтаў нацысцкі ўрад заяўляў, што больш ні на што не прэтэндуе. Праз некалькі месяцаў пасьля гэтых заяваў вэрмахт заняў усю тэрыторыю Чэхіі, далучыўшы яе да Трэцяга Рэйху.

Абхазію і Паўднёвую Асэтыю можна было палічыць ізаляваным эпізодам. Зараз вымалёўваецца пэўная тэндэнцыя. Папросту кажучы, хто наступны? І што можа стрымаць гэты марш Расеі?

Пакуль Захад увёў толькі пэрсанальныя санкцыі адносна пары дзясяткаў расейскіх палітыкаў і урадоўцаў. Гэтыя санкцыі выглядаюць ня надта сур'ёзнымі, асабліва ў сьвятле санкцый, пад якімі знаходзіцца ўжо 3 гады афіцыйны Менск. Лукашэнка сілай разагнаў маніфэстацыю, пасадзіў некалькі дзесяткаў чалавек. У яго пад санкцыямі каля 200 чалавек, уключна зь ім самім. Расея анэксавала ладны кавалак тэрыторыі іншай дзяржавы, на якім жыве 2 мільёны чалавек. Пад санкцыі патрапіў ажно (!) 21 чыноўнік.

Аднак неабавязкова, што Захад па змаўчаньні праглыне анэксію Крыму. Ужо шмат хто адзначыў, што палітыка Пуціна — гэта вяртаньне ў XIX стагодзьдзе. Можа, гэта з гонарам прызнаў бы і сам прэзыдэнт Расеі, маўляў, прэч сьвет міжнароднага права, у якім вышэйшы судзьдзя — Злучаныя Штаты. Але варта прыгадаць, што XIX стагодзьдзе было векам шматлікіх войнаў. Так, тады ня надта клапаціліся пра міжнароднае права і ўнівэрсальныя прынцыпы. Але вельмі клапаціліся пра бясьпеку, пра захаваньне сілавога балянсу. Ёсьць пэўны сымбалізм у тым, што Пуцін гаварыў сваю прамову ў дзень, калі ў 1856 годзе скончылася Крымская вайна, якую Расея прайграла.

Адказ можа быць не прамым, але істотным. Калі Захад палічыць Расею небясьпечным ворагам, можа чакаць паступовага скарачэньня гандлю, у тым ліку і імпарту расейскіх энэрганосьбітаў, закрыцьцё доступу Расеі да сучасных тэхналёгіяў, прасоўваньне інфраструктуры НАТА бліжэй да межаў Расеі, у тым ліку і ва Ўкраіну, росту (нарэшце) ваенных выдаткаў у краінах Эўразьвязу, якія апошнія гадоў 10 іх увесь час скарачалі.

І матыў — не парушэньне міжнароднага права, матыў — пагроза, якую ўяўляе сабой Расея, якая дазваляе сабе анэксаваць тэрыторыі суседзяў і канчатковыя мэты якой незразумелыя.

Пра гэта, дарэчы, ў разгар крызісу вакол Крыму гаварыў начальнік камітэту начальнікаў штабоў ЗША Дэмпсі, паводле яго «калі дазволіць Расеі ўрывацца ў сувэрэнныя дзяржавы, матывуючы гэта абаронай этнічных рускіх, пад пагрозай дэстабілізацыі апынецца ўся Ўсходняя Эўропа і Бальканы».

Вялікабрытанія і Францыя ў 1853 годзе абвясьцілі вайну Расеі не таму, што яна парушыла міжнароднае права, а таму, што ўбачылі ў яе дзеяньнях пагрозу бясьпецы ў Эўропе і Азіі. Сардэчна запрашаем у XIX стагодзьдзе.

Доўгатэрміновыя наступствы гэтай геапалітычнай зьмены для Беларусі — тэма асобнай размовы. Але зараз перад афіцыйным Менскам наўпроставы выклік — прызнаньне альбо непрызнаньне пашырэньня межаў саюзьніка.

Хутчэй за ўсё, беларускія ўлады будуць усяляк пазьбягаць прамога адказу. Нагадаю, што месяц таму сам Лукашэнка, а тры тыдні таму ягоны міністар замежных справаў Уладзімер Макей казалі пра прыхільнасьць тэрытарыяльнай цэласнасьці Ўкраіны. Цяпер гэтая цэласнасьць відавочным чынам парушаная.

Зь іншага боку, паколькі Расея ўключыла Крым у свой склад, то прызнаваць Расею ў Беларусі ня мае патрэбы, яна і так яе прызнае. Мяркую, што будуць вылучацца нейкія такія аргумэнты, каб не патрапіць пад яшчэ больш глыбокую ізаляцыю, а тое і санкцыі. Магчыма, для Беларусі ўзорам будзе рэакцыя Кітаю, які ўстрымаўся ў Радзе бясьпекі ААН пры галасаваньні рэзалюцыі аб незаконнасьці крымскага рэфэрэндуму. Тым ня менш, у Пуціна ў яго прамове знайшлося добрае слова на адрас Пэкіну.

Размовы пра выклікі сусветнаму сьветапарадку суправаджаюць хіба ня кожны буйны міжнародны крызіс. Але ў дадзеным выпадку, асабліва калі глядзець на рэакцыю Захаду, зьмена правілаў, па якіх жыве сьвет, сапраўды адбываецца.

Параза СССР у «халоднай вайне» ня скончылася ніякім глябальным пагадненьнем, якое б вызначала месца і ролі пераможцаў і пераможаных, новы парадак усталяваўся па змаўчаньні. Менавіта яму Расея і кідае выклік. Якім будзе новы? Прыгадваецца, што ўсе мінулыя — Вэстфальскі мір, Венскі кангрэс 1814 году, Вэрсальскі мір, Ялта-Патсдам — усталёўваліся па выніках вялікіх войнаў.

**www.svaboda.org**

МЯСЦОВАЯ КАМПАНІЯ

# «ПРАВА ВЫБАРУ» ПРА ВЫНІКІ МЯСЦОВЫХ ВЫБАРАЎ

**Вынікі выбараў дэпутатаў мясцовых саветаў – несапраўдныя, заявілі прадстаўнікі кампаніі «Права выбару» на выніковай прэс-канферэнцыі.**

«Выбарчыя камісія адвольна абыходзіліся з заканадаўствам, - распавёў першы намеснік старшыні Руху "За Свабоду" Юрась Губарэвіч. - У выніку назіраліся фальсіфікацыі, высокі ўзровень ціску на назіральнікаў: іх выдалялі з участкаў, пазбаўлялі акрэдытацыі».

Па словах сустаршыні аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Віталя Рымашэўскага, яны таксама адзначаюць, што змены заканадаўства, прынятыя восенню 2013 года, пагоршылі магчымасці апазіцыйных кандыдатаў для ўдзелу ў выбарах. «Высоўванне і рэгістрацыя кандыдаў праходзілі выключна ў няроўных умовах», - адзначыў ён для БелаПАН.

Назіральнікі, па ягоных словах зафіксавалі, «масавыя маніпуляцыі» з яўкай выбарцаў на большай частцы ўчасткаў, падлік галасоў праходзіў непразрыста, назіральнікі не маглі яго кантраляваць.

«У такіх умовах прадстаўнікі кампаніі "Права выбару" сцвярджаюць, што выбары дэпутатаў мясцовых саветаў не з'яўляюцца справядлівымі, сумленнымі і дэмакратычнымі, а іх вынікі не адлюстроўваюць сапраўднае волевыяўленне грамадзянаў. Мы не прызнаем вынікі гэтай выбарчай кампаніі», — заявіў Рымашэўскі.

«Асноўнай задачай нашай кампаніі было тое, каб на падставе канкрэтных фактаў патлумачыць выбарцам, чаму той кандыдат, за якога яны аддалі галасы, не стаў дэпутатам», - падвёў для сайту Рух.by Юрась Губарэвіч вынікі працы кампаніі «Права выбару» на мясцовых выбарах.

Па ягоных словах, яны збіраюцца даносіць гэтую інфармацыю да выбарцаў з дапамогай рознай інфармацыйнай прадукцыі – і гэта стане наступным этапам для кампаніі «Права выбару».

«Кампанія была досыць дынамічнай і была паспяховай», - заключыў Губарэвіч.




Учора, 23 сакавіка, пасля скканчэння галасавання на выбарах дэпутатаў мясцовых саветаў Беларусі, назіральнікі кампаніі «Права выбару» назіралі за працэдурай падліку галасоў на 320 выбарчых участках у 93 акругах. На 191 участку, па іх дадзеных, падлік галасоў не быў ні празрыстым, ні галосным (у тым ліку на 73 з 85 участкаў у Мінску). Пры гэтым, на 183 участках сябры камісіі не паведамлялі старшыні ўголас свае вынікі падліку (так, каб чулі астатнія сябры камісіі і назіральнікі).

Кампанія "Права выбару" праводзіцца на падставе пагаднення дэмакратычных сілаў, якое падпісалі арганізацыйны камітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», грамадзянская кампанія «Гавары праўду!», Партыя БНФ, Рух «За Свабоду», Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Грамада), Беларуская партыя «Зялёныя» і арганізацыйны камітэт па стварэнні Партыі свабоды і прагрэсу.

**http://pyx.by**

УКРАІНСКА-РАСІЙСКІ КАНФЛІКТ

# ПУЦІН ПАТЭЛЕФАНАВАЎ АБАМУ

**Прэзыдэнт Расеі Уладзімір Пуцін патэлефанаваў 28 сакавіка прэзыдэнту ЗША Бараку Абаму для абмеркаваньня амэрыканскіх прапаноў па пераадоленьні крызісу ва Ўкраіне. Гэтыя прапановы перададзены дзяржсакратаром кіраўніку МЗС Расеі ў Гаазе і распрацаваны сумесна з украінскім бокам і з эўрапейскімі партнэрамі. Пра гэта паведамляе прэс-служба Белага дома.**

Падчас размовы прэзыдэнт Абама прапанаваў, каб Расея дала канкрэтны адказ у пісьмовым выглядзе на гэтыя прапановы. Прэзыдэнты дамовіліся, што кіраўнікі дыпляматычных ведамстваў дзьвюх краін Кэры і Лаўроў сустрэнуцца, каб абмеркаваць далейшыя дзеяньні, інфармуе Белы дом.

Прэзыдэнт Абама зьвярнуў увагу свайго суразмоўцы, што ўрад Украіны захоўвае стрыманы падыход да крызісу і прасоўваецца па шляху канстытуцыйнай рэформы і дэмакратычных выбараў. Абама заклікаў Расею падтрымаць гэты працэс і пазьбягаць далейшых правакацыяў, уключаючы нарошчванне ваеннай сілы на межах з Украінай.

Прэзыдэнт ЗША заявіў прэзыдэнту Расеі, што ЗША працягваюць выступаць на карысьць дыпляматычнага вырашэньня крызісу ў цесным узаемадзеяньні з урадам Украіны і падтрымлівае ўкраінскі народ з мэтай разрадзіць крызіс. Прэзыдэнт Абама даў ясна зразумець, што гэта будзе магчымым толькі тады, калі Расея адвядзе свае войскі і ня будзе рабіць далейшых крокаў па парушэньні тэрытарыяльнай цэласнасьці і сувэрэнітэту Украіны. Амэрыканскі лідэр паўтарыў, што ЗША рашуча выступаюць супраць дзеяньняў, ужо прынятых Расеяй па парушэньні сувэрэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасьці Украіны.

Паводле паведамленьня прэс-службы Крамля, прэзыдэнт Расеі падчас тэлефоннай размовы прыцягнуў увагу прэзыдэнта ЗША да «працяглага разгулу экстрэмістаў, якія беспакарана зьдзяйсьняюць акты запалохваньня ў дачыненьні да мірных жыхароў, уладных структураў, органаў правапарадку ў розных рэгіёнах і ў Кіеве». У гэтым кантэксьце расейскі кіраўнік прапанаваў разгледзець магчымыя крокі міжнароднай супольнасьці па садзейнічаньні стабілізацыі становішча, інфармуе Крэмль.

**"Радыё Свабода"**

БЕЛАРУСЬ - ЕС

# ДАЧЫНЕНЬНІ «ЗАСТАЮЦЦА ЖУДАСНЫМІ»

**Эўрапейская камісія сёньня прэзэнтуе справаздачу аб прагрэсе паасобных краінаў у рамках праграмы «Ўсходняга партнэрства».**

У справаздачы разглядаюцца дасягненьні шасьці краінаў-суседзяў Эўразьвязу — Арменіі, Азэрбайджану, Беларусі, Грузіі, Малдовы і Украіны — а таксама адзначаюцца сфэры, дзе патрабуецца паляпшэньне.

Дакумэнт прапануе ідэі для далейшых крокаў Эўрапейскай камісіі і мае дапамагчы пры разьмеркаваньні 15,4 мільярдаў эўра, якія Эўразьвяз зьбіраецца патраціць у праграмах усходняга і паўднёвага суседзтва ў наступныя сем гадоў.

У лютым краіны Эўразьвязу абмяркавалі гэтак званы «Эўрапейскі пакет» заахвочваньняў для згаданых шасьці краінаў, якія выходзяць за рамкі ціаперашніх стымулаў, акрэсьленых у Пагадненьнях аб асацыяцыі.

Грузія і Малдова распачалі працэс падрыхтоўкі да падпісаньня пагадненьняў на саміце ў Вільні летась у лістападзе і маглі б падпісаць іх яшчэ сёлета.

У разьдзеле справаздачы, прысьвечаным Беларусі, паведамляецца што дачыненьні Эўразьвязу зь Беларусьсю застаюцца жудаснымі. Да 232 грамадзянаў Беларусі надалей ужываюцца візавыя забароны і замарожаньне рахункаў. У дакумэнце адзначаецца, што эўразьвязаўская дапамога Беларусі абмежаваная ў аб'ёме і засяроджваецца «прама або ўскосна на падтрымцы патрэбаў насельніцтва і дэмакратызацыі».

ЭЗ адзначае, што агульная рэпрэсіўная палітыка ў краіне працягвалася і на працягу мінулага году, што ўлучае існаваньне палітычных зьняволеных, запалохваньне прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасьці, дробнае цкаваньне, звальненьне з працы, забарону на выезд з краіны для некаторых грамадзянаў, штрафаваньне актывістаў і зьняволеньне іх на кароткія і сярэднія тэрміны.

Брусэль, аднак, прызнае, што назіраюцца і пазытыўныя зрухі ў «супрацоўніцтве Беларусі зь міжнароднай супольнасьцю па асобных праблемах, а менавіта ў справе сьмяротнага пакараньня і вышэйшай адукацыі». Эўразьвяз таксама распачаў на пачатку гэтага году перамовы зь Беларусьсю накont спрашчэньня візавага рэжыму.

**Радыё "Свабода"**

АНЕКДОТ

Спецыяльная камісія Савета Федэрацыі Расеі вывучае легітымнасьць указа імператара Аляксандра II аб адмене прыгоннага права.

***

Прыезджы пытаецца ў чалавека на Хрышчаціку:
— Скажыце, як трапіць у расійскае консульства?
— Лепш за ўсё гранатамётам.

***

А.Кабаева абурана кажа сяброўцы:
«Слухай, ну што за народ мужыкі. Нічога даверыць нельга. Я ж у Воўкі на 8 сакавіка крэм прасіла, а не Крым! Цяпер баюся нават заікнуцца пра курткуаляску.

ХАБАРНІЦТВА

# КАНФІСКАВАЛІ МІЛЬЁН ДОЛАРАЎ, ЗАЛАТЫЯ ЗЛІТКІ...

**Ўсім фігурантам крымінальнай справы прад'яўленыя абвінавачванні: службовым асобам - у атрыманні хабараў, прадстаўнікам суб'ектаў гаспадарання - у дачы хабараў.**

У ходзе праведзеных следчых дзеянняў па справе аб хабарніцтве службовых асоб канцэрна «Беллегпрам» канфіскаваныя грашовыя сродкі ў суме больш за 1 мільёна даляраў, залатыя зліткі, два аўтамабілі агульным коштам больш за 130 тысяч долараў, тры кватэры ў горадзе Мінску, мноства дарагой бытавой і аргтэхнікі. Пра гэта паведаміла Юлія Ганчарова, афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта Беларусі.

Прымаюцца ўсебаковыя меры па забеспячэнні кампенсацыі шкоды, нанесенай дзяржаўным інтарэсам, службовымі асобамі канцэрна "Беллегпрам". Праводзіцца работа па накладанню арышту на канфіскаваную маёмасць.

Затрыманы таксама тры хабарадавальніка - кіраўнікі камерцыйных структур, якія ўдзельнічалі ў мадэрнізацыі прадпрыемстваў канцэрна. Прадстаўнікі камерцыйных структур таксама заключаны пад варту.

Ўсім фігурантам крымінальнай справы прад'яўленыя абвінавачванні: службовым асобам - у атрыманні хабараў, прадстаўнікам суб'ектаў гаспадарання - у дачы хабараў.

Як раней паведамлялася, Следчы камітэт пачаў крымінальную справу ў дачыненні да старшыні канцэрна "Беллегпрам" і дырэктара ААТ "Слонімская камвольна - прадзільная фабрыка", якое ўваходзіць у структуру канцэрна.

Затрыманы Міхаіл Сучкоў узначаліў "Беллегпрам" у снежні 2012-га года. Раней ён узначальваў прадпрыемства, якое гучна прагучала ў некалькіх скандалах -- мінскае ААТ "Сукно" . У мінулым годзе прадпрыемства судзілася са сваімі расійскімі мінарытарыямі, а ў снежні мінулага года генеральны пракурор Беларусі Аляксандр Канюк на нарадзе ў прэзідэнта 10 снежаня раскрыў некаторыя падрабязнасці карупцыйнай справы ў ААТ " Сукно".

Праверка, праведзеная пракуратурай Мінска, ўстанавіла, што двое намеснікаў генеральнага дырэктара прадпрыемства - па вытворчасці і па юрыдычных пытаннях і кадрах - былі прынятыя на працу пры наяўнасці непагашаных судзімасцяў.

Слонімская фабрыка ў мінулым годзе згадвалася кіраўніцтвам краіны ў сувязі з планамі сур'ёзнай перабудовы камвольнай вытворчасці. У прыватнасці, як распавядаў год таму першы віцэ-прэм'ер Уладзімір Сямашка, з ААТ "Камволь" у Мінску частка абсталявання вырашылі перанесці ў ААТ "Сукно" і на прадпрыемства ў Слоніме, а вызваленыя плошчы ААТ "Камволь" перадаць у распараджэнне менскіх уладаў. Паводле слоў першага віцэ-прэм'ера, рэалізацыя гэтага праекта абыйдзецца танней, чым поўная мадэрнізацыя ААТ "Камволь". "Такім чынам, мы будзем развіваць магутнасці ААТ "Сукно" і падымаем фабрыку ў Слоніме, якая будзе рабіць пражу для камвольным, гарнітурнай і трыкатажнай прадукцыі", - сказаў Уладзімір Сямашка. Не выключаецца і ўдзел у праекце замежных інвестараў.

"ЦЕНЯВАЯ СХЕМА"

# PORSCHE, BMW X5, BMW X6 І СОТНІ ТЫСЯЧ ДОЛАРАЎ НАЯЎНЫМІ

**Супрацоўнікі КДБ затрымалі арганізатараў «ценявых» схем, якія дапамагалі прадпрыемствам рэальнага сектара эканомікі ўхіляцца ад выплаты падаткаў і збораў, а таксама легалізаваць незаконныя даходы і выводзіць грошы за межы краіны.**

Абарот грашовых сродкаў на замежных рахунках падкантрольных кампаній толькі ў 2013 годзе склаў больш за 50 млрд рублёў, са спасылкай на прэс - службу КДБ паведамляе TUT.BY.

Ўзбуджаная 3 крымінальныя справы па прыкметах складу злачынства, прадугледжанага часткай 2 артыкула 243 (ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў) КК Рэспублікі Беларусь у дачыненні да ўдзельнікаў злачыннай групы, а таксама кіраўніка аднаго з прадпрыемстваў.

- Узначальваемая імі камерцыйная структура асвойвала бюджэтныя грашовыя сродкі, атрыманыя за будаўнічыя работы па капітальным рамонце жылога фонду на аб'ектах ЖРЭА Партызанскага і Ленінскага раёнаў горада Мінска, а таксама за аздабленне фасада шматкватэрнага дома, што будуецца ў горадзе Жодзіна, - паведамляе прэс - служба КДБ.

Затрыманыя змешчаны ў СІЗА. У іх выключана кампутарная тэхніка, бухгалтарская дакументы, больш за 400 тысяч даляраў наяўных грошай. Акрамя таго накладзены арышт на дарагія аўтамабілі Porsche Cayenne, BMW X5, BMW X6, нерухомасць на агульную суму больш за 1,9 млн даляраў, а таксама грашовыя сродкі ў агульнай суме каля 300 млн рублёў на рахунках лжэпрадпрымальніцкіх структур.

Прызначаная праверка пытанняў фінансавых узаемаадносін прадпрыемстваў рэальнага сектара эканомікі з ілжэпрадпрымальніцкімі структурамі.

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сененская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку 30.03.2014 у 20.20**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.